 

**З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ. СТАДЫІ Ў ЖЫЦЦІ ЧАЛАВЕКА.**

# АДВЕДКІ

Наступнай фазай абраднасцей, звязаных з нараджэннем чалавека, з'яўляецца хрысцінная абраднасць, якая ў сваю чаргу падзяляецца на тры этапы: адвіэдкі, хрысціны і зборыэ.

Найістотнейшай справай пасля прыходу чалавека на свет былі — выбар яму імя і хрышчоных бацькоў, якіх інакш называюць кумамі. Імя выбіралі пераважна бацькі дзіцяці, хаця вядома, што некалі было гэта абавязкам кумоў або свяшчэнніка, які хрысціў. Галоўным, чым пры гэтым кіраваліся, быў царкоўны каляндар з выпісанымі іменамі, з якіх выбіралі тое, якое супадала або з днём нараджэння, або з днём хрышчэння дзіцяці. Дапушчалася таксама магчымасць выбару, але толькі з тых імён, якія прыпадалі на перыяд ад нараджэння да хрышчэння. Сёння гэта ўжо выключнасць.

Кумоў выбіралі бацькі. Калі ў хрысцінах прымалі ўдзел толькі замужнія і жанатыя, аб чым будзем яшчэ гаварыць наступным разам, то пры выбары кумоў гэта не абавязвала. Існавала пры выбары некалькі перасцярог і забабонаў. Часта на хрышчоных бацькоў дзіцяці бралі брата і сястру, або першых напатканых на вуліцы людзей, нават незнаёмых. Пераважна рабілі гэтак тыя бацькі, у якіх часта ўміралі дзеці. Мае гэта, несумненна, сувязь з запісаным у ваколіцах Заблудава фактам, дзе гаворыцца, што не бралі на кумоў пары, якая планавала ў будучым пажаніцца. Калі б да гэтага дайшло, дзіця б памерла. Пры выбіранні кумоў, кіраваліся перш за ўсё іх рэлігійнасцю і матэрыяльным дабрабытам. Не прасілі няверуючых. З другога боку, істотную ролю адыгрывала фінансавае забеспячэнне, іх месца ў грамадстве. Іх жа абавязкам, у выпадку смерці бацькоў, было прыняццё на сябе выхавання асірацелага дзіцяці.

Просячаму на хрышчоных бацькоў нельга было адмовіць. У іншым выпадку мела гэта адмоўны ўплыў на лёс дзіцяці. Праз усё жыццё адчувала б яно сябе непатрэбным. Але ў сваю чаргу, не заўсёды было гэта спрыяльным і кумам. Прыкладна, неспрыяльным гэта было маладой дзяўчыне тое, калі пайшла першы раз на хрышчоную матку да дзяўчынкі. Прадказвала гэта доўгія гады незамужжаства. Падобна і з нежанатым мужчынам. Такая сітуацыя, згодна з перакананнем, была прычынай таго, што ў будучыні будуць у яго радзіцца самыя дочкі.

Можа яшчэ некалькі слоў аб нованароджаных. Яшчэ па сённяшні дзень, асабліва на вёсцы, з вялікай радасцю сустракаюць прыход на свет дзіцяці мужчынскага полу, а з нейкім халадком абыякавасці адносяцца да дзяўчынкі. Выводзіцца гэта, відаць, з таго, што за дзяўчынку заўсёды трэба было даваць пасаг, што пацягвала за сабой збядненне гаспадаркі, а хлопец, наадварот, апрача таго, што прыводзіў у сям'ю пару рук да працы, яшчэ і ўзбагачваў гаспадарку. Прыкладам гэтага незадавальнення ёсць хаця б тое, што жанчыну, якая радзіла сыноў, называлі маладзіцай, а з паяўленнем першай дачкі пачыналі называць яе бабай.

(Працяг на стар. 4)



**Гарадскія замалёўкі.** *Мірнае сужыццё. Фота В. Рудчыка (зробленае ў цэнтры Беластока).*

**СУСТРЭЧЫ З КНІГАЙ**

Паняцце „наша сацыялістычная Айчына — Народная Польшча" маладое пакаленне грамадзян нашай краіны ўспрымае як цалкам натуральны, звычайны, штодзённы факт. Але не ўсе маладыя людзі ды і той-сёй з сярэдняга і старшага пакалення, належна ўсведамляюць сабе іменна тое, што да паўстання такой еднасці двух паняццяў „айчына" і „сацыялізм" у польскага народа вяла дарога не кароткая і не лёгкая. Разгляду якраз гэтага шляху і прысвечана кніга А. Каўко „Польшча: айчына і сацыялізм".

# ВАЖКІ ЎКЛАД

У ёй пасля стараннага агляду трактоўкі розных аспектаў праблемы айчыны і патрыятызму ў польскай навуковай літаратуры знаходзім даволі абшырны раздзел, дзе праводзіцца аналіз працэсу ўзнікнення і пашырэння патрыятычных ідэй у Польшчы да Другой сусветнай вайны. У ім, між іншым, пры разглядзе падзей паўстання 1863 г. аўтар заўважае: „Імёны Валерыя Врублеўскага, Зыгмунта Серакоўскага, Андрэя Патабні, Кастуся Каліноўскага, Антонаса Мацкявічуса, Якуба Ясенскага — актыўных удзельнікаў паўстання — сталі жывым увасабленнем рэвалюцыйнай салідарнасці палякаў, украінцаў, беларусаў, літоўцаў у барацьбе за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне". Пры аналізе палітыкі паўстаўшай у у 1918 г. Польскай дзяржавы, А. Каўко сцвярджае, што істотнай уласцівасцю гэтай палітыкі быў прыгнёт нацыянальных меншасцей. Гэтай палітыцы супрацьставілася Камуністычная партыя Польшчы і тыя грамадскія сілы, якія гуртаваліся вакол яе.

У другім раздзеле кнігі, які называецца „Нацыянальна-патрыятычны фактар у нараджэнні і ўмацаванні Народнай Польшчы", А. Каўко ўнікае ва ўсе самыя істотныя падзеі цяжкай барацьбы ўнутры і звонку польскага грамадства за сённяшняе аблічча нашай краіны, што правялі найбольш светлыя, патрыятычныя грамадскія сілы пад кіраўніцтвам Польскай рабочай партыі ў саракавых гадах. Выключна важную ролю мела ўсведамленне польскаму грамадству фундаментальнага значэння польска-савецкай дружбы для паспяховага далейшага развіцця польскага народа, таму, як заўважае аўтар кнігі, „ППР прыкладвала аграмадныя намаганні, каб разуменне гэтай узаемазалежнасці паміж праўдзівым патрыятызмам і дружбай з СССР станавілася ўсеагульным".

Апошні, трэці, раздзел кнігі „Палітычныя, сацыяльна-эканамічныя і ідэйныя асновы сацыялістычнай айчыны і патрыятызму" канцэнтруе ўвагу на тых грунтоўных пераўтварэннях ва ўсіх дзялянках гаспадарчага і духоўнага жыцця польскага народа, што адбыліся за апошняе трыццацігоддзе, і той выключна важнай ролі, якую адыгралі і надалей адыгрываюць пачуцці сацыялістычнага патрыятызму і інтэрнацыяналізму ў гэтым працэсе. І гэта наперакор розным варожым ідэалогіям. Асноўнае значэнне ў дасягнутым польскім народам мае і мець будзе непарушная дружба з Савецкім Саюзам і іншымі краінамі сацыялістычнага лагера, усебаковае супрацоўніцтва і ўзаемнае ўспамаганне паміж імі.

Сваю кнігу А. Каўко заканчвае сцвярджэннем: „Вопыт Народнай Польшчы, палітыка ПАРП... з'яўляюцца бясспрэчным укладам у агульную скарбніцу тэорыі і практыкі сацыялізму, расшыраюць наша ўяўленне пра праблему патрыятычнага і інтэрнацыянальнага ў развіцці новага грамадства, з вырашэннем якой звязана гісторыя сацыялізму, а таксама яго сёння і заўтра".

Неабходна заўважыць, што кніга А. Каўко і з'яўляецца важкім укладам у вывучэнне гэтага вопыту і азнаямленне з ім нашага і савецкага грамадстваў.

**М. Гайдук**

---

Кавко А. К., Польша: отечество и социализм, Институт экономики мировой социалистической системы Академии наук СССР, Москва 1977.



# Культура за рулём

Пятніца, шостага кастрычніка. Народу ўсюды поўна... Зразумела, як перад вольнай суботай.

Купіўшы яшчэ з раніцы білет на аўтобус з Беластока праз Кожына ў Бельск, што ад'язджае а $15^{15}$, чакаю прыезду. На плошчы, як у вулеі. Ужо час ад'езду, а аўтобуса не чуваць. Толькі недзе хвілін праз пятнаццаць прагучаў у рэпрадуктарах мілы голас, паведамляючы, што аўтобус па тэхнічных прычынах не ад'едзе і што падарожных сардэчна перапрашаюць. Людзі ўскіпелі. Як бурбалка лопнула надзея паездкі. І то якраз сёння, перад свабоднымі днямі.

— О, хадзем, сямяцiцкі прыехаў. Да Бельска даедзем, а там таксоўку возьмем, — сказала да нейкага вайсковага, мо мужа, мо брата, жанчына з малым дзіцём на руках.

— А што з білетамі? — спытаў той.

— Ды ну іх. Новыя купім. Не панясеш жа цяпер мяняць, бо аўтобус уцячэ.

Пагаварыўшы, накіраваліся да стаянкі, дзе стаяў аўтобус з Беластока праз Бельск, Боцькі ў Сямяцічы, які ад'язджае згодна з планам а $15^{30}$. Людзей многа, але ўбачыўшы матку з дзіцём, расступіліся і прапусцілі. Шафёр аднак не заўважаў. Цвёрда загарадзіў дзверы.

— Пане, я ж з дзіцём.

— А што мне да гэтага?! Не бачыш, што робіцца?

Малое пачало плакаць.

— Што, пан, з дзіцём не возьмеш? — пачулася некалькі галасоў з натоўпу.

— Вы мяне вучыць не будзеце! Я ведаю, што раблю. — І не толькі што не ўпусціў, то яшчэ адпіхнуў.

Дзіцё ўзяў на рукі салдат. Наколькі я добра зразумеў, вырашылі, што ён паедзе, а яна сядзе на цягнік. Адной лягчэй будзе дабрацца да вакзала, бо ўсё ж гэта з Юравецкай кусок дарогі. Узяўшы на рукі дзіця і выняўшы з кішэні атрыманы загад на выезд, праціснуўся салдат да дзвярэй.

— Пане, гэта мяне не цікавіць!

— Але ж тут выразна ўпісана праездка з Беластока ў Бельск. Я ж еду аж з Жашоўскага, засталося толькі два дні. Вазьміце ды і дзіцяці пашкадуйце, — прасіў.

— Што ты мне тут тлумачыш? Ідзі да дзяжурнага і спытай.

Цікава толькі, як можа дзяжурны вырашыць, каго браць, а каго не. Ці ж шафёр не ведае, што прыслугоўвае першынство з малымі дзецьмі на руках? А дзіцё было сапраўды малое, не то што ўзятае спецыяльна на рукі, каб, прыкрываючыся гэтым, скарыстаць з прывілею, як гэта часам робяць. Узяўшы багаж, які складаўся з чамадана і сеткі, накіраваліся да дзяжурнага. Іду за імі.

— Пішыце скаргу. Гэта не наш, гэта Сямяцiцкага аддзела, — пярэчыла дзяжурная.

— Пані, але мы хочам даехаць, наколькі мне вядома, дык прыслугоўвае нам, калі з дзіцём на руках. А я ж яшчэ маю загад выезду, — сказаў вайсковы і палажыў на стол свой білет.

— Гэта не да мяне, пішыце скаргу.

— Якое права, — заверашчаў, так проста заверашчаў нейкі шафёр, які стаяў каля дзяжурнай. — Як шафёр захоча, так і зробіць.

Неяк сціснулася сэрца, калі выйшлі гэтыя людзі і накіраваліся да прыпынку гарадскога аўтобуса, каб праехаць на чыгуначны вакзал. Па-першае, ці ж не маглі даць нейкі аўтобус у замен, калі адзіны на гэтай лініі не змог адыйсці? У некаторых жа напрамках ездзяць праз 10-15 хвілін, і гэта няпраўда, што няма машын. Зняць адну з гэтакай лініі, дык увогуле не адчулася б. Ды яшчэ тады, калі два дні вольныя і людзі маюць часам адзіную магчымасць у месяц выехаць за горад. А тут яшчэ і білеты прададзены.

Па-другое, гэта ўжо да сямяцiцкага аддзела ПКС, дзе культура шафёраў? Ці ж так абыходзяцца з людзьмі?! Няпраўда, з людзьмі можна дагаварыцца, толькі крышку культуры. Знаю, законаў на гэта няма, але ці няма нейкага маральнага абавязку?.. Цікава, што на гэта дырэкцыя ў Сямяцічах?

**Бізун**

**Наша галерэя**



*Кераміка Вячаслава Шума (збаны). Фота Рыгора Жура.*

**Разведка ГАСПАДАРНАСЦІ**

**НЯМА БУЛАЧАК.**

У верасні гэтага года ў спажывецкіх крамах у Мілейчыцах мы не маглі купіць булачак. Пазванілі да старшыні тутэйшага ГСу і даведаліся, што яшчэ не прывезлі з пякарні ў Боцьках. У мілейчыцкай пякарні пякуць толькі хлеб, які і нам вельмі смакаваў. Атрымалі мы аднак запэўненне старшыні ГС, што булачкі будуць у продажы.

Былі мы ў Мілейчыцах 20 кастрычніка і зайшлі ў найбольшую спажывецкую краму. Была гадзіна 13. Ні хлеба, ні булачак не было. Прадаўшчыцы сказалі нам, што сёння хлебабулачных вырабаў не прывезлі.

(яц)



 

(Працяг са стар. 1)

## УДАЛЫ ПАЧАТАК

годзе выказала яна ад імя ваяводскіх уладаў прызнанне і ўдзячнасць усім дзеячам Беларускага грамадска-культурнага таварыства за іх уклад у развіццё культурнага руху ў нашым рэгіёне і пажадала добрых вынікаў і задавальнення ў далейшай працы на гэтай ніве. Складаючы віншаванні нашым „белавежцам" з нагоды іх свята, падкрэсліла, што яны ажыццяўляюць праўдзівы саюз літаратуры са светам працы.

У мастацкай частцы вечарыны калектыў беластоцкага гуртка БГКТ „Каласкі" выступіў з багатай песеннай праграмай, у якой значнае месца занялі творы кіраўніка калектыву Л. Панько на словы беларускіх паэтаў Я. Коласа, М. Танка, С. Шушкевіча, а таксама нашых „белавежцаў". Гэтыя кампазіцыі надзвычай меладычныя, пранікнуты глыбокай лірычнасцю, напісаны ў добрай традыцыі беларускай песеннай творчасці, а ў выкананні „Каласкоў" прагучэлі асабліва чула. Удалым было выступленне А. Раманюка з дубяжынскіх „Дубочкаў". 12-асабовы калектыў з Бельскага беларускага ліцэя прывёз інсцэнізацыю, складзеную з твораў членаў „Белавежы". Надта ж прыемная гэта была пастаноўка. Трэба спадзявацца, што яна будзе добрым пачаткам пашырэння аматарскіх тэатраў беларускай паэзіі. Яны вельмі патрэбны ў нашым асяроддзі!

Хіба ж варта заўважыць і тое, што ў часе танцаў на вечарыне самыя навейшыя бампы, джайфы, чачы і іншыя „баевічкі" ў выкананні большасці дзеячоў БГКТ на паркеце надта ж нагадвалі нейкія дзівосныя полькі-трасухі, крыжачкі з галубцамі ды іншае, пачэрпнутае з нашай народнай танцавальнай традыцыі. І працягвалася ўсё гэта таксама па традыцыі — далёка за поўнач.

Наступны дзень, г.зн. 22 кастрычніка быў цалкам прысвечаны „Белавежы". Праходзіў ён у форме пашыранага семінара з удзелам у ім „белавежцаў" і запрошаных гасцей. Адкрыў яго старшыня нашага літаратурна-мастацкага аб'яднання Віктар Швед. Падкрэсліў ён выдатную ролю „Белавежы" ў выяўленні шэрагу здольных літаратараў з беларускага асяроддзя ў Польшчы. З абшырнымі і праніклівымі аглядамі творчых дасягненняў „Белавежы" выступілі выкладчыкі аддзялення польскай філалогіі Беластоцкага філіяла Варшаўскага універсітэта Я. Леанчук і В. Смашч. Яны заўважылі, між іншым, што творчасць „белавежцаў" мае глыбока самабытны характар, адзначаецца багаццем палітры, ахоплівае значны тэматычны абсяг, у яе ёсць важкія мастацкія здабыткі. Пасля дакладаў разгарнулася сяброўская дыскусія, у часе якой выказваліся розныя заўвагі пра дзейнасць аб'яднання і меркаванні пра яе напрамкі на будучыню. Выказвалася, між іншым, пажаданне, каб ГП БГКТ рабіла захады ў адпаведных органах улады пра павелічэнне колькасці кніжак твораў „белавежцаў", якія яно штогод выдае, каб большая колькасць нашых літаратараў, асабліва маладых, прымала ўдзел у аўтарскіх сустрэчах у вёсках і школах.

І так, адкрыццё культурна-асветнага сезона 1978/79 было і багатае і ўдалае.

**І. Снарскі**

Фота М. Шаховіча

(Працяг са стар. 1)

## ШТО ТУРБУЕ НАСТАЎНІКАЎ?

крыўджанымі. Іменна з думкай аб такіх настаўніках — з вялікім стажам працы — былі створаны гадавыя магістэрскія курсы па розных прадметах. Ці нельга было б такую магчымасць стварыць і заслужаным настаўнікам беларускай мовы? Напрыклад, пры аддзяленні беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. А можа, нават экстэрністычны курс з напісаннем магістэрскай работы?

І яшчэ адна справа з пасяджэння камісіі. Ужо некалькі гадоў у школах, дзе выкладаецца беларуская мова, праводзіцца чытальніцкі конкурс, зусім раўназначны прадметнаму конкурсу па беларускай мове. Ва ўсіх школах, а асабліва ў сярэдніх, гэты конкурс даўно стаіць нароўні з прадметнай алімпіядай. Штогод бельскі і гайнаўскі беларускія ліцэі выяўляюць найздальнейшых вучняў, з багатым запасам ведаў па беларускай мове і літаратуры. На гэтым конкурс і заканчваецца. А ці нельга было б гэтаму конкурсу надаць ранг прадметнай алімпіяды, а пераможцам конкурсу, як і па іншых прадметах, стварыць магчымасці паступаць на аддзяленне беларускай філалогіі без экзаменаў?

Вось гэтыя, ды шэраг іншых спраў, турбуюць цяпер настаўнікаў. А самая пільная з іх — буквары.

Эх, каб хутчэй дайшлі яны да вучняў...

**Яніна Чэрнякевіч**

## КАРЫСНАЯ ФОРМА АШЧАДНАСЦІ

З шматлікіх форм ашчаднасці найбольш карыснай з'яўляецца ашчаднасць на студэнцкай ашчаднай кніжцы ПКО. Рэгулярнае штомесячнае ўплачванне сумы, не меншай ад ста злотых, дае магчымасць атрымаць прэмію. Прэмія высокая, аж сто злотых ад кожнай уплаты. Умовай для атрымання гэтакай прэміі з'яўляецца заканчэнне вучобы і прызначэнне сабраных грошай на кааператыўную кватэру ці нават на свой уласны домік. Прэмію налічваюць, пачынаючы ад першай уплаты да заканчэння школы. Не ўлічваюцца дэканскія водпускі і паўтарэнні года.

Студэнцкую ашчадную кніжачку можна адкрыць ва ўсіх аддзелах ПКО. Можа яе набыць кожны стацыянарны студэнт вышэйшай школы ў краіне, а таксама і тыя, якіх накіравалі вучыцца за мяжу. Апрача прэміі ёсць і яшчэ адна карысць ад гэтакай ашчаднасці. Менавіта тое, што час сістэматычнага ўплачвання ўлічаецца ў час чакання кватэры, толькі з умовай тэрміновага заканчэння вучобы з сярэдняй ацэнкай не меншай ад чацвёркі. Тым, якія маюць цяжкія матэрыяльныя ўмовы і не маюць з чаго рэгулярна ўплачваць, ідзе на руку школа, ствараючы магчымасць атрымання рэктарскай пазыкі з частковым або поўным яе дараваннем. Сёння ў Беластоку студэнцкія ашчадныя кніжачкі мае каля 2000 асоб. У параўнанні з агульнай колькасцю студэнтаў лік гэты невялікі. А варта, каб зацікавіліся гэтым і іншыя.

(мш)

(Працяг са стар. 2)

### БЯДУЛЯ — МІЛЬЯНЕР

бульбяніках, дзе амаль столькі каменя, што і бульбы...

Тут вымушаны я спыніць расказ старшыні Бядулі, бо ў ім паявілася проста скромнасць добразычлівага гаспадара. **На банкавым рахунку калгаса „Савецкая Беларусь" знаходзіцца пастаянна 2—2,5 мільёна рублёў „свабоднага" капітала.** „Свабоднага", бо выпрацаванага супольнымі сіламі, бо з гэтымі грашыма могуць яны зрабіць, што самі захочуць, што рашыць зрабіць з імі агульны сход калгаснікаў. Толькі за мінулы 1977 год чысты даход склаў тут 1.830 тысяч рублёў.

Калі гэта чую, дык ужо не здзіўляюся, што калгаснікі Савецкай Беларусі атрымоўваюць бясплатныя трохдзённыя пуцёўкі ў Ленінград, каб паляцець туды і назад самалётам за пакупкамі. Кожны год 50 чалавек за кошт калгаса (150-180 рублёў) праводзіць водпуск у найлепшых курортах краіны, нейкіх 100 чалавек карыстаецца турыстычнымі пуцёўкамі па Саюзу. Мой добры гаспадар Бядуля-мільянер заяўляе:

— Хопіць языком варочаць, пара штосьці перакусіць.

І вядзе нас у калгасны рэстаран. Гучаць беларускія песні ў выкананні „Песняроў", а ў такт гэтых песень мігаціць, мяняецца колер і сіла свету.

Побач — утульная, невялікая зала з пышным камінам, а на супрацьлеглай сцяне з мармуровай абліцоўкай бачу стылізаваную вясковую „звязду", з якой у нас хлопцы ходзяць у час каляд. Зроблена яна з медзі, у рагах гараць свечкі. Калі наша сустрэча падыходзіць к канцу, старшыня Бядуля просіць мяне прылажыць руку да адной з мармуровых плітак.

— Толькі далікатна, — папярэджвае мяне. Прыкладаю далонь, і гэтая шматвугольная „зорка" разам з запаленымі свечкамі пачынае маестатычна варочацца, а зала запаўняецца мелодыяй „Бывайце здаровы, жывіце багата".

Бывайце здаровы, сябры з Расны, з калгаса „Савецкая Беларусь"!

**Віктар Рудчык**

Фота аўтара



**Дарожныя партрэты.** *Дзеці з Лукі.* *Фота Я. Целушэцкага.*

(Працяг са стар. 3)

## АДВЕДКІ

Калі прайшло тры-чатыры дні ад нараджэння дзіцяці, пачынаюць прыходзіць у так званыя адведкі, проста наведаць парадзіху і дзіця. Працягвалася гэта менш-больш два тыдні, бо пераважна столькі часу трымалі дзіця нехрышчаным, хіба што было хворым. Тады перад страхам, каб не памерла няхрышчаным, везлі ў царкву адразу пасля нараджэння.

У адведкі прыходзілі толькі замужнія жанчыны. Неслі з сабой ежу, падарункі новапароджанаму, пераважна вопратку, часам бралі соль, якая мела запэўніць дастатковую колькасць малака ў грудзях маткі. На адведкі ніколі не запрашалі, прыходзілі самі і прыходзіў хто хацеў — суседзі, знаёмыя. Пілі, спявалі песні. Песні былі тыя самыя, што на хрысцінах. Урачыстасць прабягала ў атмасферы пахвал, сланых у адрас маткі. Не было яўнага захаплення прыгажосцю і здароўем дзіцяці. Часамі нават наадварот — называлі яго брыдкім і пры гэтым плявалі на падлогу. Матка за гэта не крыўдзілася, ведала, што гавораць гэтак, каб не заўрочыць. Адведніцы ў сваю чаргу, за падарункі, якія прынеслі і за тое, што прыйшлі, дастаюць гасцінца, усяго пакрысе, што было на стале, асабліва з пірагоў. Колькасць асоб у адведках прадказвала колькасць пар на хрысцінах, бо пераважна прасілі тых, што прымалі ўдзел ва ўрачыстасці адведак. Але аб хрысцінах будзем гаварыць наступным разам.

**Янка Леанчук,**
**Міхась Шаховіч**

Беларуская ЛІТАРАТУРА — АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

## НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА XVI

У „Казках жыцця" пісьменнік разглядае праблему падарожніцтва, якая часта ў крытычнай літаратуры называецца вагантызмам. Праблему гэту Колас паказвае ў такіх аспектах, як імкненне герояў да азнаямлення з далёкімі мясцінамі, парванне сувязей з радзімым асяроддзем, гатоўнасць распачаць новае жыццё. Усё гэта выступае ў алегарычнай форме. Вагантыстычныя імкненні чалавека атоесамліваюцца з марай жолудзя аб адарванні ад галінкі дуба, з падарожжам хмары ў адлеглыя краіны, з прабіваннем струменя ў новае рэчышча, з вылетам птушак з гнязда і г.д.

Вагантызм пісьменнік трактуе як з'яву натуральную, хаця не заўсёды ўматываваную. Аўтар часам перасцерагае перад непрадуманымі падарожжамі. Гаворыць ён, што кожнае падарожжа пагражае расчараваннем, бо далёкія прыгожыя краявіды могуць аказацца зманлівымі. Такая трактоўка вагантызму асабліва моцна выступіла ў навеле „Даль". Магло б здавацца, што ў такім падыходзе да вагантызму праяўляецца антырамантычны элемент, бо вядома, што на рамантыкаў падарожжа амаль заўсёды дзейнічае з магічнай прыцягальнасцю. Адыходжанне ад рамантызму мае тут толькі знешні, уяўны характар. Справа ў тым, што пісьменнік заўсёды адабральна адносіцца да вагантызму, мэтай якога з'яўляецца дасягненне канкрэтных грамадскіх мэт. Колас поўнасцю разумеў, што ніякія мэты не могуць рэалізавацца без дзейнасці ў часе, у прасторы.

Асабліва моцна падтрымка ідэі вагантызму праяўляецца ў навелах „Гусі" і „Залаты прамень". У гэтым апошнім творы пісьменнік паказвае поўны пакут шлях сонечнага промня, які блудзіць, але безупынна шукае дарогі на зямлю.

„А сам залаты прамень ні на момант не спыняўся ў сваіх шуканнях дарогі на зямлю і ніколі не траціў надзеі, як выпаўніць сваё прызнанне, хоць і многа было яму перашкод у гэтым шуканні".

Другая праблема, якая знайшла шырокае адлюстраванне ў „Казках жыцця", датычыць патрыятызму і рэнегацтва. Пісьменнік з болем назіраў за ўпадкам нацыянальнага жыцця ва ўмовах няволі і з надзеяй рэагаваў на праявы нацыянальнага адраджэння. З аднаго боку, Колас стараўся прывіць суайчыннікам прывязанасць да ўласнай мовы, культуры, прыроды, з другога, асуджаў асімілятарскую дзейнасць чужых.

У патрыятычных навелах айчына выступае, як правіла, пад постаццю Гары, Дуба, Вады. Алегарычная Беларусь знаходзіцца ў частым канфлікце з сваімі дзецьмі, якія паказаны як птушкі, хмаркі, непаслухмяныя струменні, лёгкадумныя кроплі расы. Вось гэтыя „дзеці" вяртаюцца на Радзіму толькі тады, калі спатыкаюць у сваіх вандроўках няўдачу або паражэнне. Вельмі характэрным для адносін між айчынай і яе дзецьмі з'яўляецца навела „Крыніца".

„Ах, мілая матуля", — загаманілі кроплі, — мы прыйшлі, бо вельмі смуціліся па табе ў далёкіх невядомых краях. Мы — часткі твае роднае крынічкі, што цякла з твайго сэрца.

І расказалі аб сваім бадзянні.

...Гара сказала ім:

— За тое, што вы не паслухалі свае маткі і кінулі сваю радзіму, вы будзеце вечна кружыцца па свеце і ніколі не забудзеце свае жальбы па родных кутках, і нідзе не будзеце мець прытулку на свеце".

Суровы прыгавор Айчыны, якая адкідвае сваіх дзяцей, гэта канклюзія даволі ў Коласа нетыповая. Наогул у алегарычных навелах пісьменнік заахвочвае да ўзаемнага прабачэння і паяднання. Прыкладам можа быць навела „Хмарка". Дуб, звяртаючыся да бусла, гаворыць:

„От навука для тваіх дзяцей. Моцна накажы ты ім, дружа, каб не ляталі дарэмна па свеце, не бадзяліся: у сваім родным кутку работы досыць для кожнага".

 

## BEE GEES

Фота па заказу



**Фота па заказу** *Заказваў Юрка Трачук.*

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, выйшла я замуж з вялікага кахання. Пражылі мы шэсць гадоў, маем двое дзяцей. Жылі мы згодна, усе цяжкасці перажывалі разам. Найгорш было з кватэрай — чатыры гады жылі ў адным пакойчыку. Было цесна, ды і матэрыяльна было цяжкавата — толькі муж працаваў. Потым я пайшла на работу, стала лягчэй. Ну і атрымалі кватэру — трохпакаёвую. Нашай радасці не было канца. Здавалася, нічога ўжо да шчасця не трэба. Але я захварэла, трапіла ў бальніцу. Муж працаваў, дзеці хадзілі ў прадшколле. Муж кожны дзень прыбягаў да мяне. Аж хворыя дзівіваліся, а калі вярнулася, суседзі хвалілі яго без канца. Але прыйшлося паехаць мне ў санаторый. Тады ўжо мая мама пашкадавала зяця і дзяцей узяла да сябе. Муж часта пісаў пісьмы, два разы наведаў мяне ў санаторыі. Прывітаў сардэчна на вакзале, калі я вярнулася. І мы, шчаслівыя, прыйшлі дамоў. Але раніцай, як толькі муж пайшоў на работу, прыбегла да мяне суседка, ды кажа, што калі мяне не было, аднойчы позна вечарам яна чула ў нашай хаце размову ды жаночы голас. Ад гэтай весткі я ледзь не самлела. Муж прабаваў высвятліць справу, але я ў той жа дзень паехала да бацькоў. На другі дзень прыехаў і муж. Я не хацела яго слухаць і ён усё расказаў маме. Сказаў, што гэта яго сябра, з якім калісьці вучыліся ў школе, быў праездам у Беластоку. Быў з дзяўчынай. Ён запрасіў іх на кватэру. Калі муж паехаў, мама мне гэта сказала, ды аблаяла, што я плёткі слухаю. Але дамоў я не паехала і надумалася напісаць да цябе, бо ў сярэдзіне яшчэ шчыміць мне на ўспамін усяго гэтага.

Надзя з Беластока

Надзя! Плёткі, „добразычлівыя" суседкі зрабілі сваё. Ты паверыла суседцы, а чаму не дапусціла да голасу мужа, чалавека, як вынікае з тваіх слоў, добрага, сумленнага, які спрыяе табе і дзецям. Такая шумавіна, беспадстаўныя падазрэнні толькі руйнуюць сям'ю.

**Сэрцайка**

Сароемюся нават расказваць, але прыснілася мне, што я цяжарная. І вось надышоў час радзіць. Я нарадзіла адно дзіця, але чую, што гэта яшчэ не ўсё, што будуць, відаць, блізнюкі. Чакаю, але думаю: „Сказаць мужу, ці не?" Перахадзіла я яшчэ так цэлы дзень, і толькі на другі дзень мела радзіць ужо другое дзіця. Мне ўжо моцна балела, я ляжала на нейкім паддашшы, але не памятаю, ці нарадзіла другое дзіця, ці не.

Вера

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Мне прыснілася, што ішла я з сынам у полі, і раптам грукнуў гром і бліснула маланка, якая трапіла ў майго сына. Я пайшла далей.

Ліда

**Вера!** Ты распусніца. Усё каханне ды каханне табе ў галаве. Не досыць, што маеш адно, то і другое табе захацелася?! Любяць цябе хлопцы, маеш у іх вялікі поспех і сустрэне цябе ізноў нейкае любоўнае заангажаванне. Будзеш мучыцца і перажываць, але першаму каханню, бадай, не здрадзіш, бо ўсё ж другога дзіцяці ты не нарадзіла. Наогул, быць цяжарнай у сне — вялікі поспех у каханні.

**Ліда!** Твайго сына сустрэне нейкая неспадзяваная радасць. Не хвалюйся надарэмна.

**Астрон**

## Куток практычных ведаў

### КЛЁЦКІ З СЫРА

На 20 дэкаў тварагу трэба ўзяць 2 яечкі, 1 лыжку мукі і лыжку масла. Свежы адціснуты тварог расцерці ў місцы з жаўткамі і маслам, так, каб атрымалася гладкая маса. Пасля гэтага дадаваць муку і збітую з бялкоў пену. Вымяшаць. Класці лыжкай не надта вялікія клёцкі ў гарачую пасоленую ваду. Варыць. Падаваць адцэджаныя, палітыя растопленым маслам і пасыпаныя зелянінай або цукрам.

### КЛЕІК З ЯЧМЕННАЙ КАШЫ З ГАРОДНІНАЙ

На 2 шклянкі вады ўзяць 2 чайныя лыжкі ячменнай кашы, моркву, кавалак пятрушкі, кавалак селера, чайную лыжку масла, жаўток, соль і зеляніну. У халодную ваду ўсыпаць памытую ячменную кашу і варыць на малым агні. Праз мінут 15 дадаць абабраную і нарэзаную гародніну. Варыць усё разам. Калі ўсё зварыцца, працерці праз сіта, альбо прапусціць праз міксер. Да гарачага клеіка дадаць жаўток і сырое масла. Перад самай падачай пасыпаць зелянінай. Вельмі дыэтычная страва.

**Гаспадыня**

## ТАЙНЫ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ




19 лютага 1964 г. лонданская газета „Дэйлі мейл" апублікавала артыкул свайго бонскага карэспандэнта Джорджа Вайна, які пісаў: „Па ўсім свеце (выключаючы, зразумела, сацыялістычныя краіны. — Ю. М.) рассеяны сотні, а правільней, тысячы былых эсэсаўцаў і былых фанатычных нацыстаў, якія звязаны адзін з адным змовай дзеля выратавання ўласнай скуры. Яны жывуць у Каіры, Буэнас-Айрэсе, Ірландыі, іх можна знайсці нават у паліцыі і афіцыяльных органах Заходняй Германіі, а іх супольнікаў — усюды. Бо ў кожнага, хто быў актыўным нацыстам, ёсць што ўтойваць. Яны належаць да тых закулісных асоб, якія дзейнічаюць цяпер, каб дапамагчы сваім саўдзельнікам пазбегнуць правасуддзя, уцячы за граніцу ці застацца неапазнанымі. Такім чынам пад носам у заходніх саюзнікаў былі перапраўлены з Заходняй Германіі ў Іспанію, Паўднёвую Амерыку і на Блізкі Усход кіруючыя нацысты, у тым ліку Адольф Эйхман і, відаць, таксама намеснік Гітлера Марцін Борман... Закулісныя асобы бралі для гэтага сродкі з эсэсаўскіх грошай, дэпаніраваных у Швейцарыі, з „добраахвотных" узносаў і з прыбыткаў ад узбраення".

Англійскі журналіст мае рацыю. Але, на жаль, магчыма, з аглядкай на заходнегерманскага партнёра Вялікабрытаніі па НАТО, ён не назваў імёнаў гэтых закулісных асоб — памагатых эсэсаўскіх злачынцаў. Але нават „Зюддойчэ цайтунг" палічыла неабходным заначыць, што „таварыства былых" зноў стала ў Заходняй Германіі „таварыствам уладу маючых".

Аднак уладу маючымі і ўплывовымі „былыя" зрабіліся, не ў апошнюю чаргу, дзякуючы гітлераўскім багаццям, якія дасталіся ім у спадчыну і паслужылі першапачатковым капіталам для іх старту ў свой асабісты і заходнегерманскі „эканамічны цуд". На грошы з гэтых фондаў яны наймаюць забойцаў, якія прыводзяць у выкананне прыгавор тайнага суда — „фемы", трымаюць майстэрні па падборцы пашпартоў і іншых дакументаў, фінансуюць бонскія разведвальныя органы, у якіх поўна былых эсэсаўцаў, неафашысцкія ячэйкі і мноства яўных праваэкстрэмісцкіх груп і партый Заходняй Германіі.

Звесткі аб гэтым, зразумела, трапляюць у заходнегерманскі друк толькі ад выпадку да выпадку. Так, напрыклад, перш чым шпіёнска-тэрарыстычная арганізацыя былога гітлераўскага генерала Гелена была ў 1956 г. канчаткова ўключана ў бонскі дзяржаўны апарат пад назвай „федэральная разведвальная служба", заходнегерманскія прамыслоўцы ўклалі ў яе каля 10 млн. марак. Не бескарысліва, безумоўна! Даволі яўны ўдзел агентаў Гелена ў гісторыі з возерам Топліц дастаткова ясна гаворыць, што гэта было ўзаемавыгаднай здзелкай.

**Канец**

ЗАПІСКІ НАТУРАЛІСТА

## ГЛІНЫ ЗАХОЎВАЮЦЬ СЛЯДЫ ЖЫЦЦЯ

Геалагічныя ўмовы захоўвання слядоў жыцця ў цяперашнюю эпоху — галацэна, вельмі цікавыя. Гліна адначасова з'яўляецца носьбітам урадлівасці глебы, а па ступені раздробленасці часцінак адносіцца да пелітаў. Узнікненне і пераўтварэнне гліны адыходзіць у глыбокую старажытнасць геалагічнага развіцця Зямлі. Пеліты — вельмі дробныя, у дыяметры менш адной сотай міліметра, уладаюць здольнасцю паглынаць на сваю паверхню хімічныя злучэнні, неабходныя для жыцця раслін.

У мінулых геалагічных эпохах гліна ўзнікла з масіўных парод, пераносілася вадой, лёдам, а пасля адлажэння зацвярдзела — праз аргіліт, сланец да філіта.

Гэтыя старажытныя геалагічныя працэсы звязваюцца з сучаснасцю.

Аднойчы ў летні жнівеньскі змрок 1978 г. пасля праліўнога дажджу, я стаяў на масту ў Бельску Падляшскім, дзе р. Любка ўпадае ў р. Белую. Колер вады ў р. Белай быў жаўтаваты, а р. Любкі — зялёна-шэры. Палымнела на захадзе пурпуровая зара, яе водблескі па задыяку спадалі на велізарную старую серабрыстую таполю (Populus alba), што ўзмацняла вычварнасць відовішча. У гэты момант да мяне падышоў вядомы мастак-разбяр па дрэву гр. Вайткевіч М. С. Ведаючы пра яго таленавітасць, я спытаў: „Чым вы тлумачыце розніцу колеру вады ў рэчках?"

— Гэта жаўтаватая — з палёў, а другая — забруджаная ільнозаводам (рашарняй).

У асноўным адказ правільны. Я дазволю сабе вытлумачыць прычыну гэтай з'явы больш падрабязна.

Колер вады ў р. Белай жаўтаваты з прычыны прысутнасці там гліны і гумуса. Многа там ёсць растваранных мінеральных угнаенняў, унесеных гаспадарамі на палі — вялікая страта для сельскай гаспадаркі. Глеба з прычыны змывання — эрозіі зніжае сваю прадукцыйнасць. Прычына эрозіі глебы гэта тое, што пры ўзорванні поля не пакідаюць ля рэчышча ракі равоў і на схілах палёў, буферных зон — задзернаваных травой палосаў. Аранне палёў наўсцяж накіравання схілу выклікае ўзмоцненае змыванне грунту. Араць зямлю належыцца ўпоперак схілу абаротным плугам з выкіданнем скіб дагары.

На р. Белай ля сяла Пашкоўшчына, гм. Орля, гаспадары надта блізка ўзорвалі глебу да рэчышча ракі. Дажджавая вада змывае гліністыя часцінкі, выносіць іх у раку і заглейвае меліярацыйны роў — ачышчэнне і аднаўленне каштуюць дзяржаве шмат грошай.

— Які далейшы лёс гліністых часцінак і хімічных злучэнняў, плывучых з вадою? — дадаткова запытаў майстар.

— Яны, часцінкі, паплывуць у мора. Аднак частка іх адложыцца ў рачных далінах, гліна ў катлавінах накрые сабой арганізмы — расліны і малюскі; утворыцца гліністы алювій з акамянеласцямі (мал. 1). У моры — часцінкі асядуць на дно, сфармуецца марская гліністая фацыя. Там жа, на марскім дне, гліна накрые апаўшыя ракавіны малюскаў, дыятомавыя водарасці, рыбы і іншыя арганізмы. Уся гэта маса праз мільёны год акамянее, утворацца сланцы ці філіт (мал. 2).

Яны будуць сведчыць аб нашых днях, у якіх мы жывем сёння. Далёкае геалагічнае мінулае звязана з сучаснасцю і будучыняй — няўмольнай, таямнічай, велічнай.

**інж. Б. Ф. Рудкоўскін**






 

